УДК 821.161.3-1
ББК 84(4Беи)
В12

*Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў*
*«Кнігарня пісьменніка». Выпуск 113.*
*Заснаваная ў 2009 годзе.*

**Ваганаў, С.**
В12 Я веру ў Цуд : вершы розных гадоў (1963–2018) / Сяргей Ваганаў. — Мінск : Кнігазбор, 2018. — 140 с. : [8] с. іл — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» ; вып. 113).
ISBN 978-985-7207-38-1.

Вершы, сабраныя ў гэтай кнізе, ствараліся журналістам Сяргеем Ваганавым цягам жыцця, але амаль нідзе не друкаваліся, за выключэннем часопіса «Дзеяслоў», газеты «Народная Воля», альманаха «Мишпоха» і Сеціва. Такім чынам, гэта першая паэтычная кніга аўтара, у якой вы знойдзеце і любоўную лірыку, і філасофскую, і грамадзянскую — на беларускай і рускай мовах. Вершы наўмысна не пазначаны аўтарам канкрэтнымі датамі, бо, як ён лічыць, вельмі важна ўспрымаць іх з адчуваннем безупыннасці Часу.

У кнізе — фота з сямейнага архіва (на ўклейцы), здымкі аўтара, Анатоля Каляды (с. 3) і Юрыя Іванова. Калаж да другога раздзела (с. 31) — Юрыя Іванова.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 84(4Беи)**

**ISBN 978-985-7207-38-1**

*Прысвячаецца маёй жонцы
Але Ваганавай*



## Саскрабаючы наледзь

Тут цуд такі: аўтар гэтай кнігі ў цуд насамрэч верыць. Не зважаючы на досвед жыцця. Таму й піша вершы.

Пачаў пісаць напачатку 60-х мінулага стагоддзя. Тады ўсе пісалі. Усе «шасцідзясятнікі» — паэты. І па светапоглядзе, па светаразуменні Сяргей Ваганаў з іх кагорты:

Пытаннем скончыцца жыццё
Ці ў рэшце рэшт паставіць клічнік,
А застанецца ўсё ж адно:
Вакно,
Чырвонае лісцё,
І гэты сонечны кастрычнік!..

Гэткае светаадчуванне ўзнікла ў паэтаў таго часу праз так званую «адлігу», і яны яго не згубілі, нягледзячы на тое, што на адлігу даволі хутка леглі маразы:

Над Рыгай подых снежнае зімы.
Гудзе пажар сярэднявечнай сцюжы...
Гараць саборы, ліхтары, дамы...
А цемра па завулках вочы мружыць.

Яны, паэты таго часу, саскрабалі з адлігі, як дворнік у вершы Ваганава, снег і наледзь.

З часам чалавека пакідае так неабходная для паэзіі энергетыка, але Ваганаву ўдалося і гэтага пазбег-

нуць. Вершы апошніх гадоў (раздзел «XX век: семейный альбом») ці ні найлепшыя ў кнізе. Гэта такі дзённік сям'і, напісаны сынам і за маці, якая ў першыя дні вайны на шостым месяцы цяжарнасці ратавала яго, пешшу сыходзячы з палаючага Мінска, і за бацьку-франтавіка, які амаль год не ведаў, ці жывыя ягоныя жонка і сын. За сястру, партызанскую сувязную, якую «распяли на стене сарая в глухих задворках узденской тюрьмы». За расстралянага ў 1937-м дзядзьку і ягоную сасланую жонку, за іх дзяцей Алу і Марата, за брата, які павесіўся пасля вайны мінулай, бо яму, мусібыць, здалося, што ён напярэдадні вайны будучай...

За драмай сям'і паўстае трагедыя народа, якую адчуваеш востра, балюча, бо гэта жыццё і смерць, лёсы родных, крэўных людзей... У вершах чалавечая роспач: як так сталася? У іх стоена б'ецца, пульсуе жывы боль. Яны такія пранізлівыя, нібы напісаныя не цяпер, а тады, калі ўсе былі яшчэ жывыя — і ўсім балела:

Живёт во мне подарком Бога,
Под плач оборванной струны,
Во чреве матери дорога
Во чрево вздыбленной страны...

Каб так сказаць, мала ўмець пісаць вершы. Трэба мець біяграфію, лёс, сплецены з біяграфіяй «вздыбленной страны». Аўтар кнігі такі лёс мае, таму і маем мы гэтую кнігу.

*Уладзімір Някляеў*

# Усё часцей
# кідаю позірк ў неба

* * *

Галінка прарастае у Сусвет.
Адкуль, скажыце, тут яна з’явілася?
З якога зерня, што сярод планет
Блукала ды за нашу зачапілася?
Ёй цёпла тут —
Між веснавых прыкмет.
Пупышка... лісцік...
Простая галінка...
Галінка прарастае у Сусвет.
Туды, дзе Вечнасць — што адна хвілінка.

* * *

Шкрабе ад раніцы лапаціна ў двары.
Напэўна, снег.
Святло ў маім акенцы.
А сёння дзень які ў календары?
Пад белай вокладкай, што ціха зранку тчэцца?
Якіх, скажыце мне,
Часоў няпэўны збег
Стаў новага стагоддзя нараджэннем?
А снег ідзе.
Ідзе вялікі снег —
Святлом у вокны, роўным абуджэнню.
Бясконцы мой перадсвітальны сон,
Не змучаны ні навіной, ні датай...

Які ён лёгкі!
Безжурботны ён...
А дворнік усё скрэбае лапатай.

* * *

Над Рыгай подых снежнае зімы.
Гудзе пажар сярэднявечнай сцюжы...
Гараць саборы, ліхтары, дамы...
А цемра па завулках вочы мружыць.
Пажар! Пажар!
Згараюць ліхтары
На плошчы, дзе завея з гулам жахавым
Чытае вершы ажно да зары
Дый грае на аргане фугі Бахавы...
Вось так праз ноч,
Да раніцы,
Датла
Згараць
І з прыску узгараць нанова...
Вядзерца... шуфлік... шэры снег... мятла...
Заціхла Музыка.
Замоўкла Слова.

## Я веру ў Цуд

Я веру ў Цуд, але не веру ў Бога.
Ніяк Яго з сабой не спалучу.
Што, каб не Ён, дык не было б нічога?
Што, каб не Ён, ніхто б нас не пачуў?
Ад небыцця у небыццё дарога —
І гэта ўсё, што створана Адтуль?

Яго няма нябеснага й зямнога!
Бо дзе Ён? Дзе?
Нідзе.
Бо Ён паўсюль...

---

Я веру ў Цуд, але не ў цуды.
У Цуд бясконцага Жыцця.
У Бога, што жыве паўсюды,
Ратуючы ад небыцця...
Сам па сабе жыве.
Без Юды...

## Чатыры кулі

*Памяці Барыса Нямцова*

Чатыры кулі,
Шэсць смярдзючых гільзаў...
І цела, распасцёртае на фоне
Крамля,
Дзе утаропіў вочы ўніз
Забойца, стаўшы, як той цар на троне...
Ні да чаго ўжо прыгажосць манер
І цьмяныя выгібы лабірынта...
Адліты кулі ў СССР.
Расія тымі кулямі забіта.
Ўсяго чатыры...
Шэсць смярдзючых гільзаў...
Зусім няшмат, каб вынішчальна-здзекліва
Вар'яцтва страху вырвалася з
Жарала, праз якое паліць пекла.
Хаўруснікі, што вылеплены з бруду,
Паўзуць да трону звыклай каляінай...

Ім назаўжды пазаставацца Юдамі
Ля цела распасцёртае краіны...

## Печы

*Памяці Сашы Коржыча*

Цяпер не ўстаць мне, ані легчы...
Адно ўзляцець, нібы анёл.
Мяне спалілі вашы Печы.
Цяпер я сорам ваш і боль...
І з вышыні, з нябёсаў зорных,
Гляджу, як тлусты чорны дым
Паўзе ад Печаў тых «узорных»
Жалобай не па мне адным.

Ды нас тут столькі, што я нават
Пералічыць не паімкнуся...
Навошта ж ты нас нараджала,
Айчына наша, Беларусь?!

І тым апошнім летнім ранкам,
У росны салаўіны час,
Навошта нашы маці з ганка
У войска выпраўлялі нас?

Ды дзе ж, скажыце, тое войска,
Ў якім так хочацца служыць?
Пасля якога з ласкі Боскай
Ты вернешся кахаць і жыць?

Жыццё, калі наўкол «шакалы»,
Нібы хаджэнне па лязу...
Хай прэзідэнт і генералы

Льюць кракадзілаву слязу,
Я не вярнуся з высяў зорных,
Хоць сэрцам да матулі мкнуся.

Дыміць Пячамі крэматорый —
Дзяржава з назвай Беларусь.

## Паедзем паядзім

На што, гляджу я, «Бульбаш-хол» падобны?
Вялікі архітэктар быў мастак.
Пад рэстаран будынак той падроблены.
А насамрэч — гулагаўскі барак.

Там не сталы, а шэраг стылых нараў.
З унутраных — афіцыянты — спраў.
І кухары для вас гатуюць стравы...
Не елі вы шчэ гэткіх смачных страў.

І запрашаюць вас паесці ў Курапаты.
І падвязуць праз цемру страшных ночак.
Чакаюць вас шыкоўныя салаты —
Свінец і жоўты, поўны рот, пясочак.

## Начны анёл

Ляціць, на скрыпачцы іграе
Сярод паўночных аблачын.
Няўлоўна раптам узнікае,
Знікае раптам ў далячынь...
Бязмежная яго свабода.
З усмешкай ціхамірнай твар.
Ад боскасці яго прырода.

Ці з чалавечых вечных мар?
У змрочнай далі, без маны,
У зморы ад пакутаў лёсу,
Пачуй з палёў павеў зямны.
І гукі скрыпачкі з нябёсаў...

## Вечныя пытанні

З якіх тысячагоддзяў,
Ў які мільён гадоў
Зямлі ў Сусвеце гойдацца
На крылах ветракоў?
Мы верым: не зачыніцца
Няспынны млын для нас.
А што, калі ён спыніцца,
Ў муку змалоўшы Час?
Мо нейкія прапелеры
Нясуць удалячынь...
Зацята ў гэта верым мы.
Хаця з якіх прычын?
Нябесныя арэлі
Мы ўсе ў дзяцінстве снім...
Адкуль мы прыляцелі?
Куды цяпер ляцім?

## Позірк

Усё часцей кідаю позірк ў неба,
У сінь паміж пякельных аблачын.
Якая ж у тым позірку патрэба?
Якую ён шукае далячынь?
Ці на Зямлі яму няма спакою?

Ці ў прыцяжэнні адчувае страх?
Ці прагне ён намацаць, як рукою,
Сусвету твар, бы мацае сляпак?
Ці так, ці гэтак...
Што б там ні было,
Шукае позірк ў бездані акенца:
Мо хто адтуль нарэшце адгукнецца...
І запануе на Зямлі Святло.

* * *

Ці чуеце вы нашы галасы,
Суседзі недасяжныя ў Сусвеце?
Ці бачыце, як з кожнае вясны
На дрэвах распускаюцца суквецці?
І п’юць блакіт завоблачных крыніц,
І набрыняюць жыватворным сокам...
З якіх неверагодных таямніц
Вы сочыце Усёвідушчым вокам?

* * *

Пытаннем скончыцца жыццё
Ці ў рэшце рэшт паставіць клічнік,
А застанецца ўсё ж адно:
Вакно,
Чырвонае лісцё,
І гэты сонечны кастрычнік!..

# Пачуйце вы
# і мой званок...

## Віктару Казько

* * *

Каб ведаў я, што жыць мне засталося
Яшчэ палову добрую жыцця,
Паехаў бы у Вільчу я,
І спаў бясконца,
І еў клубніцы,
Як дзіця.
Лавіў бы рыбу,
Плёскаўся б на плёсе,
Пісаў бы вершы Віктару Казьку...
Не вельмі клапаціўся б я аб лёсе
На белым-белым на Случы пяску.
У тых бы вершах біў бы я паклоны
Старым, магутным вільчынскім дубам.
І пасылаў шалёныя праклёны
Усім «Знамёнкам», «Нёманам», «Трудам»...
І цяпнуўшы гарэлкі ледзь не кружку
(Няхай язык што хоча, то пляце!),
Я б цалаваў заветраную грушку,
Што на Палессі кожны год цвіце.

*15 жніўня 1976 г.*

* * *

Год Дзевяноста шосты, красавік,
Дзень Дваццаць трэці, сонечны аўторак...
Яшчэ не ўбіты ў дах апошні цвік,
Яшчэ не затупіўся твой аловак.
І да нашчадкаў ласціцца рака,
Вышынь празрыстых непаўторна рэха.
Чаромха, нібы хвалі малака,
Яшчэ надзеяй цешыць чалавека.
І цеплынёй бруіць цяжар зямлі,
І першай кропляй набрыняе неба,
Чакаючы бясконцае ралі...
Ну, што яшчэ табе, мой дружа, трэба?
Як быў, так ёсць і будзе красавік,
Як быў, так ёсць і мусіць быць аўторак...
Яшчэ не ўбіты ў дах апошні цвік.
І зноў вастрыцца з ранку твой аловак...

*23 красавіка 1996 г.*

* * *

Яшчэ у лесе снег трывалым мурам
Ляжыць, нібыта чый забыты верш.
Пад вечар думаў пра «Ката...», каторы з гумарам.
Ад ранку думаў пра цябе найперш.
І пра гадоў імклівых плынь адвечную,
І пра калыску матчынай зямлі...
Падвесіў Бог яе да шляху Млечнага,
Каб зоркі калыхаць яе маглі...
Ну, што яшчэ табе сказаць, мой дружа?

Здаровы будзь!
І, як заўсёды, дужы!

*23 красавіка 2017 г.*

## Генадзю Бураўкіну

### З нагоды выдання кнігі вершаў «Лісты да запатрабавання»

Я Вашыя лісты патроху
Чытаў у позняе цішы.
Нібыта нехта ў дарогу
Паклікаў з таямніц душы —
Праз цемру да святога рання,
Праз лес, рачулку, сенажаць...
«Лістам да запатрабавання»
Ніколі ў скрынях не ляжаць...

### «Ў» — званок

Вось гэты ходзіць ў Інтэрнэт,
Той не вылазіць з рацыі...
Такі малы ста«Ў» белы свет
Ад іх глабалізацыі!
Адно праз мары, мроі, сны,
Нябёс буслiны клёкат
Плывуць Паэзіі званы
Высока і далёка.
Між тым, паблізу ці здалёк,
Ці то «Ў»нутры, ці звонку
Пачуйце Вы і мой званок,

Хоць і не вельмі звонкі.
Не кліча ён натоўп на веча,
Ды мае голас чалавечы...
Прыміце «Ў» дар, каб зно«Ў» і зно«Ў»
Склікаць усіх сваіх сябро«Ў»...

*Галерэя «Ў», 14 верасня 2011 г.*

## Уладзіміру Някляеву

### Паэты нараджаюцца двойчы

Што ж ты рабіў ў прамежку Дзён народзінаў?
Чаго шукаў ва ўзросце немаўляці?
Ці ж ведаў, што шляхам тваім Валодзевым
Наканавана душы узараці?

Пяро тваё не зморана ў сяўбе...
Але па што твая душа блукала?
Ці ты шукаў Паэзію ў сабе,
Ці то Паэзія ў табе сябе шукала...

*9–11 ліпеня 2017 г.*

* * *

Пратаколы, позвы, суддзі...
Ўсё гэта праміне калісьці.
Паэт заўжды Паэтам будзе!
Анёлам з Боскае калыскі.

*28 сакавіка 2016 г.*

* * *

Не сапсуе ніводзін прайдзісвет
Наш свет прыветны,
Нашы святы,
Калі працягнем праз душы Сусвет
Святло сяброўства ў нашы хаты...

*28 ліпеня 2016 г.*

* * *

Хоць пачынаўся шлях праз менскі Брод,
Ты броду не шукаў — ні малады, ні сівы...
Твайму жыццю няма альтэрнатывы:
Паэт жывы, пакуль жывы Народ.
Народ жывы, пакуль Паэты жывы...

*9 ліпеня 2017 г.*

* * *

У Бруселі ты, ў Варшаве, альбо ў Рызе, —
Гучыць усюды твой прызыўны верш.
І ў голасе, і ў памяці, і ў кнізе...
Але ў душы гучыць твой верш найперш.

Душа твая не ведае прымусу.
Да Волі і Святла заўжды ішоў,
Каб больш не давялося Беларусі
Ліць слёзы ля пакутніцкіх крыжоў.

*9 ліпеня 2018 г.*

## Анатолю Рэпіну

### Карані

Якая восень!
Чырванее лес.
Прымоўк на варце вартаўнік-ядловец.
Такі неперакладны ціхі змест
Ва ўсім.
Такая, Толя, споведзь...
Чаму ж, скажы, то стрыт, то авеню
Так вабяць нас?
Але ж на сэрцы горка.
Мо быццам нейкі цвік у кораню,
Якім спрадвеку ёсць твая Мар'іна Горка...
Калі пачуцці прагнуць цішыні,
Як той крынічны свет на небасхіле,
Не авеню нас цягнуць — карані.
Той родны кут, які табе так мілы.

*1991*

## Сергію Жадану

### Тэрор

Навошта ім памежны той кантроль,
Калі яны ва ўсялякім разе —
Мо не заб'юць —
Праб'юць па іхняй базе
Паэта, што нясе у сэрцы боль...
Нібы ваўка, заганяць у аблогу,

Развесіўшы чырвоныя сцяжкі...
Няхай галовамі паб’юцца аб падлогу,
Не перакрыць паэтаву дарогу.
Не дапамогуць ні сцяжкі, ані бажкі —
Іх сталіны з іванамі жахлівымі.
Іх пуціны...
Астатніх чорт бяры.
Гарэць у пекле ім з усімі ксівамі
Не з сённяшняй, дык з будучай пары...
Паэту ж вольнаму — заўжды Спакой і Воля.
Сяброўства спеў і боскіх зорак хор...
Што, напужаў паэтавы тэрор?
Тэрор Любові ўперамежку з Болем...

*11 лютага 2017 г.*

## Уладзіміру Сцяпану

* * *

Хай будзе пэндзаль падуладным Мастаку!
А вуда — падуладнай Рыбаку!
Хай нараджаецца з вушацкіх рэчак Слова —
Жыцця і Вашай творчасці аснова...

*22 студзеня 2017 г.*

* * *

Добрай раніцы, рака!
Вожык, прывітанне!
Вось табе мая рука,
Конь, сустрэты з рання!

Кінуў вуду я ў раку
І сяджу, чакаю...
Мо якому шчупаку
Адкажу: «Вітаю!»

*7 верасня 2017 г.*

## Георгію Ліхтаровічу

Табе адпачываць не варта.
Хай «гарыкі» кагосьці вабяць,
Калі ідзе «Начная варта»,
То хто ж «Ліхтарыкі» запаліць?!

## Міколе Захаранку

Няхай жыцця імкліва рушыць кола,
Якая асалода зноў і зноў
Вяртацца да Захаранкі Міколы
І да яго заўжды чароўных слоў!

## Віталю Цыганкову

Блакітам набрыняе даль.
А чырванню — лісцё...
Усё ж нездарма імя Vіталь
Ад першароднага «жыццё»...

# Вершаванкі

## Пра слова

Слова не трымай у запасе.
Скісне, калі там трымаць.
Ва ўсялякім слушным разе
Слова мусіць працаваць.

## Пра сэрца

Я сэрца сваё не пакіну
Усюды, куды ні памкнуся...
Дзе сэрца маё, там Айчына.
З айчынай маёй — Беларуссю...

## Пра дух

Не ведаю, якім ты кіраваўся рухам,
Фэйсбук.
Але — у кропку.
Бо так яно і ёсць:
Не па крыві, але адзіным духам
Яднаюцца Народ, Айчына, Лёс...

## Пра сапраўдных

Паветра словамі калышучых
Зашмат з усіх бакоў паўстала —
Пра ўсё гаворачых і пішучых...
Сапраўдных мала.

## Пра позна і рана

Сябры, не будзем заракацца
І на хваробы наракаць.
Яшчэ нам рана — «Так трымацца!»
Яшчэ не позна — «Так трымаць!»

## Пра снежань

Чакаем у снежні снегу мы,
Без снегу снежань — спрэс маркота...
Мо не хапае толькі кроку
Ад беларускае зімы
Да апельсінаў...
Як з Марока.

## Пра начальніка

Не крыўдуй, калі начальнік
Разяўляе мацюгальнік —
Смачным словам лашчыць слых...
Усё-ткі лепей, чым пад дых...

## Пра вышыванку

Хоць з шабляй ты які Чапай,
Хоць з кулямётам Анка,
А Беларусі не чапай,
Бо спаліць ВЫШЫВАНКА!

## Пра працэс

Як выглядае ён убога —
Той звышзацягнуты працэс
У гэтых «верачых у Бога»,
Як некалі ў КПСС...

## Пра партыі

У Амерыцы я быў бы дэмакрат,
Калі б і там я жыў як галадранец.
У краіне ж роднай не цярплю дыктат.
Таму я тут пакуль рэспубліканец.

## Пра свабоду

Столькі словаў аб свабодзе!
А свабоды ўсё няма...
Штось зламалася ў прыродзе —
Затрымалася зіма...

## Пра рухі

Белыя мухі, белыя мухі...
Самотнай душы патаемныя рухі.

## Пра сустрэчу

Было трошкі цеснавата,
Хоць канапа — не Парнас...
Мо сяброўства вінавата,
Што ўціснуліся ў Час.

## Пра шэсці

Глядзеў на тую з'яву я са скрухай,
І бачыў, як міліцыянт надоечы
За «парушэнне вулічнага руху»
Аштрафаваў Алега Грузьдзіловіча*.

Ляціць ў паветры тапаліны пух.
Квітнее над краінай травень сонечны...
І дзе ён толькі ўбачыў гэты рух?!
Ці нават зрух — той, вулічны, надоечы...

## Пра прыгажосць

Калі з нябёсаў у маё жытло
Струмень бруіцца з поўні ртутны,
Ці жыватворнае, пытаюся, святло

* Алег Грузьдзіловіч — журналіст з «Радыё Свабода».

У прыгажосці?
Альбо смак атрутны...

## Пра піва і каву

Калі нап'ешся піва зранку,
Дык ледзь дацягнешся да ганку...
А з філіжанкай добрай кавы
Лагодны будзеш і рухавы.

## Пра ўцёкі

Каму спатрэбяцца уцёкі,
Звяртайцеся, аўто дамо,
Камплект ад сцюжы і ад спёкі...
І акуляры дадамо...

## Пра Л. Я-ну ў Еўропе

Навошта ж спакушаць стары вулкан
Яшчэ адным апошнім днём Пампеі?
Яна ж яго таксама ўводзіць у зман,
Што ад каштоўнасцяў Еўропы ціха млее...
Яшчэ імкнецца нібыта ў Парыж.
Вось тут, як хочаце, паверце ці не верце,
Пасля Парыжу будзем ставіць крыж.
Бо толькі раз пабачыць і памерці...

## Пра старасць

Не веру я, што сэрца бы ў дзіцяці.
Туды і знешнасць, і хада — да кучы...
Датычна розуму Альцгеймера спытайце.
А вось душа насамрэч неўміруча...

## Пра дыскусіі

Рыпіць іржавы рэп на паваротах,
Бы салідол, густы салёны мат...
Ужо ні Карпава, ні Рудака, ні Горвата.
З дзярмом змяшаў іх безупынны батл...
Я паважаю нашых мудрых продкаў.
Таму хачу уставіць свой радок
У абарону добрых моўных сродкаў
І беларускай вёсачкі Прудок.

## Пра дзядоў

Старымі сталі? Не бяды.
Аніякай крыўды.
Не зусім яшчэ дзяды.
Не дзяды, а дзіды.

## Пра чарку і скварку

Ціхамірна скончыць сварку:
Выпіць чарку, з'есці скварку,
Паварушыць чорным вусам...
Што шчэ трэба беларусам?

## Пра гарыл

Усе краіны спрэс малыя
Для нашчадкаў тых гарыл,
Хто праз межы зямлю рые
Ад Бярэсця да Курыл...

## Пра журналістыку

Чым вымяраць адлегласць да навінаў?
Не кіламетрамі, не важкасцю манет...
Мо вытрымкай да незлічоных кпінаў
Ды колькасцю спалёных цыгарэт.

## Пра атэістаў і вернікаў

Здаўна у нас вядзецца звычай:
То пуга, то салодкі пернік.
Як атэіст, дык ваяўнічы.
Як дабрадзей, дык толькі вернік.

# Только тот, лебединый, тот единственный взмах



# Поговорим на языке созвездий

## Звёздный путь

Пускай уходят дни за днями,
За годом год,
За жизнью жизнь,
Одна звезда горит над нами.
И ты звездою назовись.
В моих делах, в моей тревоге,
В моей бессоннице ночной
Зову тебя своей звездой,
А ты зови меня дорогой...
Пусть будет этот звёздный путь
Широк, спокоен, чист и ясен.
Ты — свет.
И этот свет прекрасен
Тем, что мешает мне заснуть.

## Я писем жду...

Я писем жду —
Приносит ветер охапки мокрых листьев.
Я писем жду —
В глазах собаки застыл осенний дождь.
Я писем жду —
Солома слетает с мокрой крыши.
Я писем жду —
А ты уже не ждёшь...

## Букет

Опять душа согрета летом
И запахом июньских рос.
И этим солнечным букетом,
Который я тебе принёс...
Ты слышишь, как цветут луга,
Как затаилось в речке небо?
Как тихи детства берега,
Где нас давно с тобою не было.

## Эхо

Где-то скорый над речкой грохочет,
И кричит паровоз, будто грач,
Разрывая полотнище ночи
Над притихшим курятником дач.
И его отдалённое эхо
Мы разделим по-братски, на двух.
Словно две половинки ореха,
Обращённые в зренье и слух...

## Август в городе

Закрою глаза,
А голос твой слышен:
«Хочется вишен...
Хочется вишен...»
В окнах и рамах
День бестолковый.
Пороюсь в карманах,
Найду целковый,

Пойду на рынок —
День жаром пышет...
Сметана из крынок
Погребом дышит.
Веет холодом,
с детства знакомым...
Август над городом.
Полдень.
Истома.
И вдруг — словно дождик
Запляшет по крышам:
«Хочется вишен...
Хочется вишен...»

* * *

Прядёт ноябрь тугую нить заката.
Нежнейшие слова свиваются в клубок.
И в горле сдавленный комок
Твердит, как ты любил когда-то...
Прислушиваешься... За окном
Воспоминаний чуткий шорох.
То ветер листьев палых ворох
Гоняет за углом.
Ты вспоминаешь, как заря
Вставала над осенним утром.
Как разгорался с тихим гулом
Бездымный порох сентября.
И выстрел, словно шерсти клок,
Повис на сучьях с лёгким треском...
И над далёким перелеском
Голубоватый плыл дымок...

* * *

Стрекочет дождь по листьям,
По крышам шебаршит,
По виноградным кистям,
По дереву самшит.
По лужам барабанит.
По перепонкам бьёт.
Никак не перестанет.
Всё льёт, и льёт, и льёт...

Невыносима мука,
И тоньше волоска
Нелепая разлука.
Небесная тоска.

## Дрожит огонь...

Приди ко мне на Куршскую косу.
Поговорим на языке созвездий.
Смахнём с волны янтарную слезу
Осенних холодов,
Сентябрьской поэзии.
Здесь чередой проходит смена вод.
Прилива час грядёт неторопливо.
И сосны, подпирая небосвод,
От моря смотрят в сторону залива,
Где расставляют сети рыбаки.
Дрожит огонь на охладевшей глади,
Как первый стих неопытной руки
На косо разлинованной тетради.

## Автомобильный этюд

Из ночи в ночь,
В себя поверив,
Летим, не чувствуя вины.
А по обочинам деревья
Из воздуха сотворены.
Презрев законы постоянства,
Почти вслепую, как Икар,
Мы в тёмный силуэт пространства
Вонзаемся лучами фар.
Другими стали наши лица.
И сквозь змеиный ветра свист
Когда-нибудь тебе приснится
Летящий под колеса лист.
Своей судьбе в благодаренье
Он падал долго, не спеша,
Верша легчайшее паренье
И пыльным дождиком шурша...
Но в металлическом снаряде
Мы проносились вдоль Земли.
Тебя одной, не Бога ради,
Исчезнув росчерком вдали...

## Жребий

Листья падают. Снова осень.
Чистых чисел высокий ряд.
Облаков голубиная просинь
Над душой совершает обряд.
И ничто уже не повторится.
Жребий брошен.

И вот итог:
Перевёрнутая страница
И прижатый к губам платок.

## Наши дни

Возвратимся на кру́ги своя
В тополином ненастье июля.
Если люба и люб,
Значит, любим?
Возвратимся на кру́ги своя.
Дни ведь тоже, как белый пух,
Заворожены нежным ливнем.
Давай их в наш круг примем.
И подружимся с ними,
И станем в круг,
В котором нас будет больше двух —
Мы и наши дни с нами.
И закружимся в ливне —
Нежен он и упруг —
Над тополями.
Над городом сонным,
Над тихой рекой,
Над облаком даже...
Это надо же
Какой
Получается круг
Наших глаз, наших рук, наших губ
И дней наших.

## Святая простота

Сегодня мы уже не те.
Не тот парад,
Не то обличье.
К святой, наверно, простоте
Приблизились до неприличья.
И хоть изменчив мир и груб,
Мы продолжаем мчать по кругу
Июльских дней
И рук,
И губ,
Однажды отданных друг другу.
Пришла пора вернуть кредит.
Отдать долги, проценты ссуды...
Но что-то душу бередит
И по живому рвёт сосуды.
Да, пусть не тот в сосудах ток,
И пусть движения неловки,
Но дышит тёплый завиток
На светлой внучкиной головке
В святой, от Бога, простоте.
Слепой любви,
Наивной вере...
Пусть мы уже совсем не те...
Ну, не совсем, в какой-то мере.

## Сказала ты…

Сказала ты: «Поехали за город.
Там хорошо...»
Весенняя вода
Тревожит холодком,
Стекающим за ворот.
А, может, ни за что.
А, может, в никуда...

Там хорошо.
Озябшая душа
Взамен измен, любвей и полумрака
В ладошки тычется —
Заблудшая собака —
Ни поводка,
Ни крыши,
Ни гроша.

Там хорошо.
Там никаких проблем.
Там кажется, что жизнь остановима.
Лишь чьи-то фары проплывают мимо,
Чужие тайны увозя в Эдем.

Там хорошо.
Колючая вода
Тревожит холодком,
Стекающим за ворот.
А может — ни за что.
А может — в никуда...
И ты молчишь: «Поехали за город...»

## Пара слов

Может, черкнёшь пару тёплых слов?
Уж больно тоскливо...
Мираж за окном.
Воплощением снов —
Воды Балтики и залива...
Если нет пары, черкни одно.
Если нет тёплых, черкни холодные...
Что б ни черкнула, всё равно
Они как в жару процедуры водные...

Ну, что тебе стоит? Черкни, давай.
Но только совсем не зачёркивай...

## Ветер с Балтики

Вновь задувает ветер с Балтики!
Представь, какие в Ниде волны.
И дюны дышат, как астматики,
И сосны плачут, как валторны...
Я так соскучился по Ниде,
Что каждый ветра вздох оттуда,
В какой бы ни был я обиде,
Забытый отголосок чуда...
И всё, что было там, припомнится,
И станет даже важным очень...
А ветер с моря успокоится
Меж сосен, дюн и между прочим...

## Всё будет…

Балтийских звёзд небесное качение.
Литовских сосен шум над головой.
И белых пен прозрачное шипение
О ледяной песок береговой...
Всё будет — зим колодезная вечность
И долгих вёсен бедные труды...
Мгновения уходят в бесконечность
Волны, смывающей твои следы...

## Песенка

Метёт позёмка меж домами
И ветер свищет.
Кого он ищет между нами?
Кого он ищет?
Кого он ищет и не находит
И, словно дом,
Земля качается
И ходит ходуном.
Держись, дружище,
Пусть ветер свищет,
Не в первый раз
Он в нашем доме кого-то ищет.
Находит нас.

## Ночной ангел

Летит, на скрипочке играет
Среди подлунных облаков.
Неуловимо возникает
То тут, то там, то был таков...
Как сладостна его свобода!
Как безмятежен чудный лик!
Божественна его природа.
Или её случайный миг?
Когда в неведомой дали
Устанешь от любовной муки,
Услышь дыхание земли
И скрипочки небесной звуки...

## В ожидании весны

Капель за окнами шуршит,
Оплыл зимы огарок.
И солнце медные гроши
Бросает нам в подарок.
Мы подбираем их, спеша,
У каждой грязной лужи.
Освобождается душа
От леденящей стужи.
Иллюзия простых примет.
Бессрочных ожиданий.
Ты помнишь, сколько зим и лет
Свиданий, расставаний?
Но с первым проблеском весны
Начнётся всё сначала.
Ты эту тайную теплынь

У стужи замечала?
Ещё чуть-чуть, и хлынет свет,
Что нам обоим нужен.
С тех первых солнечных монет
У первых грязных лужин.

## Казнь

Наверно, это всё-таки жара
Лишила нас и зрения, и слуха...
Ну, что ж, любимая, пришла пора
Держать ответ.
Хватило б только духа.

Прости за всё.
Но прежде — за любовь.
Её неосторожное явленье.
И всё-таки ты сердце не суровь,
Казня меня за это преступленье.

Я сам себе и узник, и палач.
Я сам себя
Втащил на эту плаху.
И всё-таки топор подальше спрячь,
Когда надену чистую рубаху.

И сам себя за самого себя кляня,
Я сам себе Голгофа и Цусима...
Жизнь без тебя смертельна для меня.
Но и с тобой она невыносима.

Не потому ли слово «жизнь» и слово «казнь»
Созвучны так,
И так по сути схожи...

Есть между ними гибельная связь —
От вскрика первого и до последней дрожи.

## Увы

Увы, я не могу тебя забыть...
Нет, не тебя —
Своё воображенье
Тебя
В тумане головокруженья.
Увы, я не могу тебя забыть.

Увы, я не могу тебя забыть...
Нет, не тебя —
Своё отображенье
В твоих глазах,
Слезы сухое жженье.
Увы, я не могу тебя забыть.

Увы, я не могу тебя забыть...
Нет, не тебя —
Слепое притяженье —
К земле с небес
Бесстрашное скольженье.
Увы, я не могу тебя забыть.

Увы, я не могу тебя забыть...
Нет, не тебя —
Двух наших тел сраженье,
Где каждый обречён на пораженье.
Увы, я не смогу тебя забыть.

Забыть...
Избыть...
Не быть.

## Как быть, любимая?

Как быть, любимая?
Как жить,
Когда сумятица весенняя,
Ручьёв разброд,
Солнцеворот,
И голо птичье пение?

Как быть, любимая?
Как жить,
Когда газетной нонпарелью
В набор расходуется жизнь,
Вся в ожидании апрельном?
Как быть, любимая?
Как жить,
Когда ревут на площади
Сто тысяч лошадиных сил,
И нету просто лошади?

Как быть, любимая?
Как жить,
Когда в асфальтовой излучине,
Моторов сдерживая прыть,
Как под веслом уключины,
Визжат колеса, тормоза,
И в суматохе свалочной
Назад-вперёд-вперёд-назад
Указывают палочкой?

Как быть, любимая?
Как жить,
Когда такой случился случай?
Жизнь промелькнёт звездой падучей...
Как быть, любимая?
Как жить?

## Взмах
*(стихи, дописанные спустя 48 лет)*

### 1968-й...

Вечер дышит туманом,
И залив уже спит.
Домик Томаса Манна
Над заливом стоит.
От него недалече
Есть скамейка одна.
К ней сосна свои плечи
Прислонила, пьяна...
Говорю без обмана:
Вижу сон наяву —
Ты плывёшь из тумана,
Я навстречу плыву.
И над Смерти Долиной,
Над Змеиной Горой
Слышу взмах лебединый
Наших крыльев с тобой...

## ...2016-й

Над обрывом столетий,
В обрушенье времён
Нас никто не заметит,
Пролетим и умрём.
И исчезнут навеки
И туманы, и сны.
И сосна у скамейки,
И скамья у сосны.
И вечернее марево,
И свеченье кирхи.
И над Балтикой зарево,
И стихи...
И грехи...
Всё, что мялось из глины,
Перемелется в прах...
Даже первый, невинный
Поцелуй на губах.

Но над Смерти Долиной
Будет плыть в небесах
Только тот, лебединый,
Тот единственный взмах...

# И свет в окошке
# равен пробужденью

## Заславль. Предчувствие весны

Воздвигнут храм среди холмов,
И вал насыпан крутобокий.
И электрички крик далёкий
Летит без меж и берегов.
На вкус, на запах и на цвет
Неразличимо расстояние,
И тайное весны признание
Ещё не обрело примет.
Ещё не проступает лик
Земли, овеянной снегами.
Но воздух, трепетен и дик,
Уже горит над куполами.
И боли нет уже... Легка
Душа, весь мир простить готова...
И ждёт возвышенного слова,
Плывущего, как облака.

## Свет в окошке

С утра скребёт лопата во дворе.
Наверно, снег.
Наверно, свет в окошке.
Какой сегодня день в календаре
Под белой неизмятою обложкой?
Какой, скажи на милость, нынче век
В жилище вхож, подобно наважденью?..

А снег идёт.
Идёт великий снег.
И свет в окошке равен пробужденью.
Но нескончаем предрассветный сон,
Не омрачён ни новостью, ни датой...
Как лёгок он...
Как беспечален он...
А дворник всё скребёт своей лопатой.

## Пожар

Над старой Ригой снежная зима.
Гудит пожар средневековой стужи.
Горят соборы, фонари, дома...
Дома горят, а переулки кружат.
Пожар! Пожар! Сгорают фонари
На площади, где вьюга, ахая,
Стихи читает или до зари
Играет на органе фуги Баха...
Вот так всю ночь, до самого утра,
Дотла
Сгорать и загораться снова...
Ведро... лопата... серый снег... метла...
Затихла Музыка.
И замолчало Слово...

## Зов

Кружит над Прагой лист резной.
Кружит собор Святого Витта.
И воздух светел, как «Prazdroj»,
И хмелем голова повита.

О, как постичь хотя б на миг,
в бреду нащупывая броды,
и Града вознесённый лик,
и Влтавы полудённый блик,
бег вод и гулких арок своды?..
Стою на Карловом мосту,
о будущем не сожалея.
Как бедный рыцарь на посту...
«Живой, старик?»— «Навеселе я...»
И всё ловлю тот беглый миг,
когда пойму хмельной язык
златых небес.
Я к ним приник,
как брагой,
Прагой отогретый...
Хмель в голове.
В коленях качка.
Кружится лист.
Рябит река,
где бабье лето, словно прачка,
простирывает облака...

И слышу зов издалека.
Твой, Прага, зов:
«Ahoj, miláček!»

## В вагоне

О, сумрачный воздух рассвета!
Пытаясь тебя превозмочь,
Грохочут колеса, а где-то
Ещё продолжается ночь.
Ещё в коридорах вагонных

Колеблется влажная мгла.
И тень от галактик просторных
На сонные лица легла.
Ещё не кончаются грёзы,
Ещё не торопится взгляд.
И только берёзы, берёзы
В окошке вагонном летят.
Всё мимо, и мимо, и мимо...
Дорогою в никуда.
Где горестно непоправимо
Рассветная тает звезда.

## О, сад...

О, сад, плывущий в глубине
Прозрачного начала осени,
Не у тебя ль прощенья просим мы
За расставанье в тишине,
Где только яблок стук глухой
О землю, с первого мороза
Застывшую,
И где берёза
Горит прощанием с тобой...

## Лисички

То ли сдуру, то ли спьяну
Дождик брызгает с небес.
На лисичкину поляну
Я забрёл в дремучий лес.
Что за глупая привычка
Глушь топтать в такую рань!

Раз лисичка, два лисичка,
Три... Ещё, куда ни глянь.
То гурьбой, то в одиночку,
То, считай, не больше трёх.
То взбираются на кочку,
То скрываются под мох...
Вспыхивают, словно спички,
(Даром, что ли, дождь грибной!)
Те лисички — переклички
Между небом и землёй.

## Комаровка

Звонок: «Ты где?»...
А я уже
С утра кручусь на Комаровке*,
Хватая руль на вираже.
От сна к редиске и морковке.
Какой, однако, ветра свист,
И небо обложили тучи.
Но как всегда торгаш речист,
Хваля товар: «Мой самый лучший!»
С утра глотнуть морковный сок —
Ради него себя не жалко.
Прощай, мой сон! Прощай, сурок!
Не жизнь, а соковыжималка.

* Комаровка — главный рынок в Минске.

## Весенний урок

*Дочке Юле*

Весна расшила тёплой гладью
Края разнеженных небес.
Но, словно школьник над тетрадью,
Ещё сосредоточен лес.
И хоть не кончилась отсрочка,
Какую выпросил февраль,
Всё неувереннее строчка
Становится.
А не пора ль
Забросить ручки и тетрадки,
Всё, заготовленное впрок,
И в лес пуститься без оглядки...
Пускай не выучен урок,
Пускай наивным, как ребёнок,
Останешься ты навсегда,
Когда, снегами запелёнут,
Манит весенний день туда,
Где на опушке солнце греет,
И в каждой ветке новизна,
Где, словно голубь, голубеет
Прохладная голубизна.

## Прощание

Вот и песенка пропета,
Отлетает, не спеша,
Остывающего лета
Соловьиная душа.

А в затылок дышит осень.
Грешен всякий певчий звук.
Только слышен между сосен
Дятлов дробный перестук.
Ничего уже не надо:
Ни опаздывать, ни ждать.
Лишь одна за жизнь награда —
Умиранья благодать.
Без числа...
Предела...
Срока...
Но, безжалостно остра,
Точит лезвия осока
Возле старого моста.
Там, где зеркало озёрное,
Словно к тихим берегам,
Поздним светом озарённое,
Поднесут к моим губам.
Будет лёгким то прощание —
Не горячка и не тиф.
Улетит моё дыхание,
Зеркала не замутив.

## Не рушь гнезда!

Не рушь гнезда!
Оно
Сродни твоей постели.
И дому твоему.
И памяти твоей.
Не рушь гнезда!

Оно
Доступней колыбели.
Не рушь гнезда
И птицы не убей!

## Летучий корабль

Когда блеснёт последний луч
И наползут ночные тучи,
Всплывает призраком летучим
Корабль, даром что летуч...
Он помнит кораблекрушенье,
Он помнит катастрофы час...
Его спасло воображенье.
А он — воображенье спас.
Ну, как мы жили бы, когда бы
Не появлялся он во мгле
Воображеньем нашим, дабы
Жить получалось на Земле?!
Иль ни к чему воображенье?
И что, скажите, делать с ним?
Ведь всё равно Земли крушенья
Ужасный час неотвратим...
Но верю, поздно или рано
При свете чьей-нибудь луны
И мы всплывём.
Всплывём, земляне,
Воображеньем спасены.

И мальчик-инопланетянин,
Едва блеснёт последний луч,
Земли исчезнувший корабль
Увидит.
Даром что летуч...

## Затмение и знамение

Когда в лучах невидимых Светила
Вошёл во мрак багровый лик Луны
И тень Земли её совсем накрыла,
Явился Марс знамением войны.

Устав любить, мы стали ненавидеть,
Рождая мрак.
И в ядерной пыли,
Не дай нам Бог когда-нибудь увидеть
Последнее затмение Земли.

# Стена Плача

## Время

Мы знаем: время растяжимо...
*Самуил Маршак*

Где б ни стояли мы,
Куда бы мы ни шли,
Оно незримо следует за нами.
Хоть в центре,
Хоть на краешке Земли
Мы без него не знаем, кто мы сами.
И пусть бесплотен его тайный дух,
Пусть плоть его бесстрастно равнодушна,
Мы вместе с ним вершим по жизни круг
То тихо, то отчаянно послушно.
Как сладко вдруг исчезнуть в Никуда,
И вновь себя вернуть из Ниоткуда!
Как будто после Страшного суда
Оно тебе открыло жизни чудо.
Кроме него никто бы нас не спас.
Оно, не ошибаясь, выбирает:
Или в бессмертие пускает нас,
Иль медленно, но верно убивает.

## Стена Плача

Всё чаще снятся мне ушедшие друзья.
Они без стука входят в сон под утро.
Альберт, Володя, Саша, Костя, Юра...
Все молоды. И с ними молод я.

Прошедших лет горячая зола
Ещё не посыпает пеплом душу...
Хотя порядок этих лет нарушен,
Душа моя скорей добра, чем зла.

Она не помнит въедливых обид.
Тяжёлых ссор, размолвок, расхождений...
В ней нашей дружбы уголёк горит.
Посмертной дружбы тихий чистый гений...

Она от них прощения не ждёт
За дружеских объятий недостачу...
Всего лишь сон предутренний несёт
На Стену Памяти.
Иначе — Стену Плача.

И просит, если есть на свете Бог,
Чтоб на друзей моих не очень злился.
Чтобы друзей моих и ТАМ берёг.
И чтобы я под утро им приснился.

* * *

> Как жаль, что жизнь неповторима...
> *Константин Северинец*

Всё в этой жизни повторимо.
Всё сказано.
Отплакано навзрыд.
Всё так же тихо и неутомимо
Звезда с звездою вечно говорит...
Всё то же, как всегда, над нами небо,
И солнце то же, и в морях вода...
Не потому ли то, что было — не было,

А только лишь казалось иногда?
И тот фонарь.
Аптека тоже та же —
Твоей душе ниспосланный приют...
И то дитя, которого однажды
Твоим же именем случайно назовут...
И в час любви, и в полудённой дрёме,
Трудов завещанных в последний горький час —
Всё в этой жизни повторимо, кроме
Её самой.
Ну и, возможно, нас.

## Погиб поэт...

Мне говорят: «В тебе погиб поэт...»
Наверно, говорят из чувства лести.
Мол, если б жив он был, стихов чудесней
Не знал бы этот, да и тот, загробный, свет...

Мне говорят: «В тебе погиб поэт...»
Наверно, говорят из чувства мести.
Мол, если б жив он был, стихов, хоть тресни,
Не знал бы худших тот и этот свет...

Мне говорят: «В тебе погиб поэт...»
Забыли, что поэт — «невольник чести...»
Осталось лишь найти себе Дантеса,
Чтобы признать: «Во мне погиб поэт...»

* * *

Какая дурная погода!
Какие дурные дела!..
Зачем же, не ведая брода,
Летим, закусив удила?

Иль вовсе без всякого смысла,
Презрев безмятежную лень,
Мы тащим свои коромысла
Из прошлого в будущий день.

Всё мало, и мало, и мало...
Когда же уже, наконец,
Свершится средь шумного бала
Покоя легчайший венец?!

Но в радости этого мига
Успеем ли мы испытать,
Как из повседневности ига
Мы будем, скрипя, выползать?

Какого числа или года
Достанем до самого дна,
Такого восстанет Свобода,
Что свыше, от Бога, дана...

## О мраке

Стихи, прочтения и смыслы...
*Ольга Седакова*

«Стихи, прочтения и смыслы...»
Туманный слог... Коварна речь...
Что ж над душой моей нависло —
Петля? Нож гильотины? Меч?

Откуда в светлое пространство
Вползает змеевидный Мрак?
В буквальном смысле слова ГАДство...
По повеленью? Просто так?

Я говорю ему: не надо!
Не омрачай мой белый Свет.
А он подносит чашу с ядом:
На, выпей, Света больше нет...

И всё, во что я свято верил,
Испепеляет Мрака луч...
Каким бы ни казался зверем,
Он беспросветен и живуч.

Вот почему в словах ничтожных
Искрит высоковольтный ток —
Хаос предчувствий безнадёжных
Рождает дьявол, а не Бог.

## Мыльный пузырь

О, нет, не из воды и мыла —
Из детских снов и радуг сотворён.
Когда-то и моя рука ловила
Его...
Но исчезает дивный сон.
Лови, малыш! Лови его, покуда
Ты веришь в этой жизни волшебство.
Лови, пока ещё живое чудо,
Пока ты ощущаешь с ним родство.
Лови, пока оно неуловимо.
Пока похоже так на шар земной.
Лови, пока в нём нет ни труб, ни дыма...
Пока не станет мылом и водой.

## Игра

Когда-то, в лётчика играя,
Со свистом ветра у виска,
От страха сердцем замирая,
Я прыгал с зонтиком с сарая
На кучу грязного песка...
Не повторить того маршрута.
Но как же хочется успеть
На зонтике, без парашюта,
Однажды в детство залететь.

## Что любит министр

Министр любит брюки галифе
И голубой, под галифе, околыш...
А кто не любит, тот ему до фе...
До фени тот ему.
И даже сволочь.

Министр любит кожаный сапог.
Летучий аромат одеколона
После бритья...
Тяжёлый дух ОМОНа
После битья,
И газа сладкий смог...

Министр очень любит водомёт.
И автозаки в тёмном переулке.
А поперёк проспектов — перемёт —
Извлечь «изюм» из белорусской «булки»...

Министр наш завзятый театрал,
И очень любит наблюдать галёрку.
Чтоб каждому, кто «Баста!» прокричал,
Устроить показательную порку.

Министр очень любит бронзоветь.
Себя согреть в тени городового,
Готового любого так огреть,
Чтоб вспомнил про орла, про двухголового...

Министр любит со звездой ремень
И скрип энкавэдэшной портупеи...
А как ещё изображать кремень
В подобострастной сущности ливреи?!

## Эвтаназия

Вы рвётесь ввысь,
В стеклянный небосвод.
Под вашими железными ногами
Вам не услышать Города исход
С прожившими свой долгий век домами.
Что их жалеть?!
Хруст старческих костей
Едва ли в вашем сердце отзовётся...
Среди таких, как вы, глухих людей
Убийство эвтаназией зовётся...

И правда —
толку-то от старых стен...
Что пользы от больного организма?
Пусть новый город вырастет взамен
Стеклянной башней, пирамидой, призмой.
Пускай раздастся вширь,
Взметнётся ввысь.
Пусть будет снова нов, здоров и молод.
Какая, мол, от старого корысть?!

От нового — бездушие и холод.

Какое ему дело до меня?
До всех, кто расставаньем опечален...
Пожалуй, с этим примирился б я,
Когда б не помнил городских развалин
И длинные цепочки наших мам,
Кирпич из рук передающих в руки...

Зачем же рвёте сердце пополам
Отчаяньем безвременной разлуки?!

Вам дорога чужих фантазий власть.
А мне — кирпич, тепло хранящий, дорог...
Вам эту память не дано украсть.
Живой не ваш, а мой убитый Город.

## Ностальгия

*Григорию Трестману*

В какие б земли ни врастали корни,
Какой бы ни шумели мы листвой,
С годами всё тревожней и упорней
К земле нас тянет, что зовём родной.

Не совладать нам с этой скрытой тягой.
Не заглушить её подземный гул.
Не затопить её солёной влагой.
Не иссушить её хамсином адовым,
Каким бы жаром он ни полыхнул.

Пусть кто-то назовёт обетованной
Ту землю, посчитав её родной.
Далёкой, благодетельной, желанной...
На деле тянет нас к земле иной...

К отеческим гробам. К родным могилам,
Где душ еврейских больше, чем в лесу
Деревьев.
К не забытым лицам милым,
Дрожащим, словно листья, на весу.

Они из Памяти глядят призывным взглядом.
И, приравняв свой путь земной к судьбе,
Мы понимаем, что другой не надо.
Что эта тяга — к самому себе...

## На смерть Наума Коржавина

Он просил похоронить себя в России.
Беззащитен, как ребёнок, и огромен.
Не в Америке.
Не там, где жил Мессия.
Там, где был при жизни похоронен.

## Дождь 26 апреля 1986 года

Лил дождь.
Простой апрельский дождь.
Ко мне пришёл мой друг промокший.
Снял плащ.
Сказал: «Чего уж проще
Дождя, которого так ждёшь!»

Лил дождь.
Простой апрельский дождь.
Мой друг разулся у порога.
Сказал: «Ещё совсем немного,
И вновь заколосится рожь»

Лил дождь.
Простой апрельский дождь.
Мой друг, как кот на мягких лапах,
Прошёл в мой дом: «Ты слышишь запах
Дождя? Всё остальное — ложь!»

Лил дождь.
Простой апрельский дождь.
Мой друг, благоухая влагой,
Сказал: «Старик, упился брагой
Дождя. О, как же он хорош!»

________

Льёт дождь.
Простой апрельский дождь...

Мой друг стоит подобьем света
В прихожей.

Ну, а было это,
Когда лил дождь.
Апрельский дождь.

## Камень

Мне приснилось,
что я умираю.
Тяжкий камень
сдавил мою грудь.
Как Сизиф,
этот камень толкаю,
И никак
не могу оттолкнуть.
Я кричу!
Я зову!
Но не слышен
Мой немой, камнем сдавленный, крик.
И всё ближе... и ближе... и ближе
Небытья подступающий миг.
Толку звать, коли миг тот послушен
Несгибаемой воле Творца.
Отчего же Он так равнодушен
К моему ощущенью конца?
Неужели мой давящий камень
Оттолкнуть не под силу Ему?

Камень-сон,
Камень-явь,
Камень-память
Поколений, ушедших во Тьму.
Нет, Никто и Ничто не поможет...
Как ни плачь,
ни кричи,
ни зови,
До последней останется дрожи
Неподъёмная тяжесть Любви.

# Всем любопытен свой портрет

## Виктору Козько

### No pasaran!*

Страницы дней твоих листая,
Знаю наперёд:
«Тёмный лес, тайга густая»,
«Високосный год».
От вильчанского порога
Через свет и тень
Ляжет «Колесом дорога»,
Грянет «Судный день».
Из «Детдомовского сада»
Над теченьем вод,
Словно горькая услада,
Грушка расцветёт.
За буслиным поворотом
На сибирский край,
Скажешь, словно ненароком:
«Здравствуй и прощай».
Здравствуй, сеятель и пахарь,
Лекарь горьких ран!
Ну, а годы? Ну их «Нахов»...
И «Но пасаран!»

---

* В шутливом посвящении использованы названия произведений Виктора Козько, написанных в первые двадцать лет его литературного творчества.

### Пузырь и камень

Что наша жизнь?
То лёд,
То пламень,
То окунишко на заре.
То лёгкий лёт,
То тяжкий камень,
То камень в желчном пузыре.
Пора садиться на диету,
Мой друг.
Пора не пить, не жрать...
Пора признаться белу свету,
Что время камни собирать.
Что время прочищать протоки,
Чтоб не застаивалась желчь...
Но разве ж деться от мороки
Сердца людей глаголом жечь?!
Пока, нагуливая пузо,
Иной пузырь срывает куш,
Твоя надрывная обуза —
Сдвигать каменья с наших душ.

## Нине Козько-Чунтоновой

### Крутые годы

В пределах жизненного круга
Всё возвращается опять...
Как хорошо, когда, подруга,
Тебе ещё 75!
Налажен быт,

